# «ПАРУ ТРЭБА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ НЕ НА СВІСТКІ, А НА ВЫРАШЭННЕ НАШЫХ АГУЛЬНЫХ ЗАДАЧ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Стараемся. І я не магу сказаць, што пры сустрэчах Прэзідэнт сябе паводзіць непачціва. Я пакуль не ў крыўдзе на яго.

**— Тым не менш у адносінах новага парламента з Прэзідэнтам узнік такі цікавы момант: два члены яго каманды (Ю. Малумаў і У. Канаплёў) сталі членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета, і адзін з іх заявіў, што ён будзе чалавекам Прэзідэнта (Ю. Малумаў)?**

— Я не ведаю, можа, гэта было зроблена па нявопытнасці; у Вярхоўным Савеце павінны быць людзі Вярхоўнага Савета. Не ісці ў разрэз з Прэзідэнтам — гэта зусім не значыць, што трэба быць чалавекам Прэзідэнта. А чый тады я чалавек? Я таксама, відаць, чалавек Прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы... Калі нас абіралі на пасады, кожны з дэпутатаў спадзяваўся, што мы будзем весці канструктыўную палітыку. Мы ж не можам так падзяліць, што, маўляў, Вярхоўны Савет — не прэзідэнцкі, а прэзідэнт — не парламенцкі. Так нельга выказвацца. Мы ж дзяржаўныя людзі.

**— Тым не менш, вы не станеце адмаўляць, што Прэзідэнт змог выпрацаваць механізмы ўплыву на Вярхоўны Савет. Як апошні будзе шукаць свае механізмы, каб дабратворна ўплываць на таго ж Прэзідэнта і яго каманду?**

— Ведаеце, нам трэба меней думаць аб тым, як уплываць адзін на аднаго, а больш пра тое, як вырашаць агульныя задачы. А то мы занадта мераемся сіламі, а справы на месцы. Трэба ўсё-такі думаць аб тым, як зрушыць з месца агульны воз.

**— Звернемся, Сямён Георгіевіч, да іншай тэмы. Цяпер у парламент прыйшлі пераважна левыя сілы, і ў многіх узнік непакой, як пойдуць рэформы, што і так ужо надта доўга прамаруджваюцца?**

— Ведаеце, зноў-такі я не хацеў бы акцэнтаваць увагу на левых і правых. Мы прыйшлі для таго, каб вырашаць задачы, што стаяць перад грамадствам у сувязі з тым, што яно трапіла ў крызіс. Мы канструктыўна павінны разам знаходзіць усе болевыя кропкі, якія трэба неяк лячыць. Мэта ж наша ясная, як запісана ў Канстытуцыі, — сфарміраваць прававую сацыяльную дзяржаву. А наконт рэформаў я ўжо выказваўся: я стаю за рыначнае, сацыяльна кіруемае грамадства, дзе б дзяржава задавала кірунак і трымала пакуль што ключавыя пазіцыі, і ў той жа час я — за шматукладнасць эканомікі, за разумнае спалучэнне дзяржаўнай і прыватнай уласнасці. У мяне на гэты конт ёсць цэлая тэорыя, якую я выклаў у сваіх артыкулах у газеце «Белоруссия». Рэформы трэба праводзіць, інакш грамадства будзе кіснуць, эканоміка — занепадаць. Эканоміка ж мянялася ўвесь час, у тым ліку і ў савецкі перыяд: тыя ж калгасы развіваліся, узбуйняліся і г. д.

**— Што датычыць сельскай гаспадаркі, з якой вы выйшлі, — ці вы падтрымліваеце тыя ідэі, якія вылучае міністр В. Ляонаў?**

— Я не хацеў бы так вузка зыходзіць з праблем АПК, бо хацелася б падкрэсліць, што я, як кіраўнік парламента, не павінен лабіраваць нейкую адну галіну, адну партыю. І я выйшаў з фракцыі Аграрнай партыі... Таму ў нас ёсць адпаведная камісія, яна будзе разглядаць гэтыя праблемы, а я як спецыяліст пастараюся ў яе ўнесці свае прапановы.

**— Сямён Георгіевіч, праз нейкі час Таварыства беларускай мовы будзе праводзіць канферэнцыю па праблеме дыскрымінацыі нашай роднай мовы... Праблема для нас балючая. Як, на вашу думку, Вярхоўны Савет можа абараніць родную мову і культуру?**

— Ведаеце, нам не трэба абараняць, хто на яе нападае? Трэба стварыць умовы для таго, каб людзі ёй авалодалі. Я магу сказаць толькі тое, што я лічу двухмоўе не падменай адной мовы другой, а абавязковасцю ведання і адной, і другой мовы... Я вяду пасяджэнні Вярхоўнага Савета па-руску, хоць добра ведаю беларускую мову, толькі па адной простай прычыне: большасць залы пакуль што размаўляе на рускай мове. Раней я сядзеў на пасяджэннях Вярхоўнага Савета і бачыў, што Старшыня гаворыць па-беларуску, а ўся зала — па-руску... Трэба каб увесь парламент загаварыў, а пакуль што гаварылі адны старшыні. А калі будуць разбірацца пытанні культуры — я абавязкова буду весці сесію на беларускай мове. І буду старацца ўсё рабіць для таго, каб грамадства добра ведала сваю родную мову і карысталася ёй. Але гэта трэба пачынаць са школы, каб усе нашы дзеці, незалежна ад таго, у якую школу яны ходзяць, добра ведалі беларускую як карэнную мову свайго народа.

**— Яшчэ адна складаная праблема, па якой хацелася б ведаць ваша асабістае меркаванне: мясцовае самакіраванне. У нас у многіх гарадах няма новых гарсаветаў, а старыя перастаюць фінансаваць.**

— Я ведаю гэта. Мы пастараемся прыняць закон, як гэта і Прэзідэнт, відавочна, прапануе, каб панізіць планку легітымнасці мясцовых Саветаў з 2/3 да 1/2. Гэта ўжо дасць магчымасць запрацаваць некаторым Саветам. Ну а потым трэба будзе размаўляць з кіраўніком дзяржавы і вырашаць праблему з выбарамі.

**— Некалькі пытанняў на міжнародную тэматыку. Вы сустракаліся з дэлегацыяй Савета Еўропы. Як, па-вашаму, калі мы зможам уступіць у гэтую арганізацыю?**

— Я думаю, што ў бліжэйшай будучыні. Пасля нашай размовы з прадстаўніком Савета Еўропы гэта стала мне яшчэ больш відавочным.

**— А што гэта дасць Беларусі?**

— Беларусь, па-першае, стане паўнапраўным членам еўрапейскай сям'і, павысіцца яе міжнародны аўтарытэт, а ў сувязі з гэтым і ўзаемаадносіны з краінамі Еўропы будуць наладжвацца на зусім іншай аснове.

**— Як вы ставіцеся да прапановы аб нейтралітэце як стратэгічнай мэце для Беларусі?**

— Я думаю, што чыстага нейтралітэта, як і незалежнасці, у прыродзе няма. Ёсць суверэнітэт як права народа і дзяржавы вызначаць свой лёс. А ўжо адносна незалежнасці трэба глядзець на шчыльнасць супрацоўніцтва і ступень незалежнасці, кіруючыся інтарэсамі дзяржавы. Не трэба думаць, што нам можна не залежаць ад Расіі. Ды гэта немагчыма, бо працэнтаў на восемдзесят адтуль усё завозіцца да нас і туды ж накіроўваецца. Як мы можам не залежаць і ад Германіі, ці іншых краін, калі з імі таксама трэба гандляваць.

**— Сямён Георгіевіч, дазвольце некалькі асабістых пытанняў. Хто вашы бацькі і вашы дзеці?**

— У мяне бацька загінуў на фронце, ён быў селянінам, я рос сіратой адзін у мамы. Таму, быць можа, і адбыўся такі унікальны выпадак, што мяне калгаснікі маёй роднай вёскі абралі намеснікам старшыні калгаса, калі я быў яшчэ студэнтам. Я рана пайшоў на працу з касой, плугам... Мама мая працавала ў калгасе, была ўзнагароджана медалём. Яна цяпер пенсіянерка, ёй 86 гадоў, жыве са мной. І на шчасце маё, ніякіх праблем у маёй сям'і ніколі не ўзнікала.

**— Ці быў у вашых бацькоў свой кавалак зямлі там, на радзіме?**

— Канешне, адзін гектар. Я памятаю тую зямлю, дзе я што мог, дапамагаў маме.

**— Кім працуе ваша жонка?**

— Яна працуе ў «Саюздруку». Калі мы ад'язджалі ў калгас, яна перапыняла там сваю працу, а калі вярнуліся, яе зноў запрасілі.

**— А дзеці?**

— Дзеці ўжо дарослыя, ім за 30... па спецыяльнасці эканамісты-фінансісты, працуюць хто дзе. У іх свае сем'і. Яны падарылі мне трох унукаў і ўнучку.

**— Як вы адчуваеце сябе фізічна, як ваша здароўе?**

— Нармальнае, я ніколі не вёў, што называецца, бяспутнага жыцця.

**— Спортам захапляецеся?**

— Люблю плаваць, лавіць рыбу.

**— Што яшчэ любіце?**

— Я вельмі шмат чытаю, чытаю і канспектую.

**— Якая была тэма вашай доктарскай дысертацыі?**

— «Эканамічныя і арганізацыйныя пытанні спецыялізацыі і канцэнтрацыі сельскай гаспадаркі на базе міжгаспадарчай кааперацыі і аграпрамысловага падраду». У тым ліку там быў раздзел і па сацыяльных пытаннях.

**— Дзякуй за шчырыя адказы. Поспехаў вам!**

*Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.*

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ

Ад пасады намесніка міністра хлебапрадуктаў па скарачэнню штатаў і ў сувязі з рэарганізацыяй міністэрства вызвалены пастановай Кабінета Міністраў Іван Ціханавіч Новікаў.

x x x

Згодна з пастановай Кабінета Міністраў, у састаў Рэспубліканскага міжведамаснага савета па праблемах інвалідаў (ён зацверджаны пастановай урада ад 13 ліпеня мінулага года) уведзены галоўны спецыяліст упраўлення адукацыі, навукі, культуры, аховы здароўя і сацыяльнай абароны апарату Кабінета Міністраў С.К.Маркіянаў. Сяргей Купрыянавіч будзе выконваць абавязкі сакратара савета, замяніўшы Віктара Сцяпанавіча Шыпіцу.

x x x

Кабінет Міністраў пастанавіў распаўсюдзіць дзеянне пункта 6 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1994 г. № 481 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і асобных сацыяльных выплат» на работнікаў арганізацый фізічнай культуры і спорту, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

x x x

Кабінет Міністраў прыняў пастанову адобрыць і накіраваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для прадстаўлення на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет пагадненне паміж урадам нашай рэспублікі і ўрадам Рэспублікі Малдова аб паветраных зносінах, падпісанае ў Кішынёве 12 верасня 1995 г.

x x x

Кабінет Міністраў у мэтах забеспячэння эфектыўнай дзейнасці сістэмы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў, сацыяльнай абароны слухачоў у перыяд навучання прынятай пастановай зацвердзіў Палажэнне аб умовах матэрыяльнага забеспячэння слухачоў сістэмы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў.

Міністэрствам і іншым цэнтральным органам кіравання даручана забяспечыць перагляд і прывядзенне іх нарматыўных актаў у адпаведнасць з Палажэннем аб умовах матэрыяльнага забеспячэння слухачоў сістэмы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў.

Гэта пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 1 студзеня 1996 года.

x x x

Кабінет Міністраў пастанавіў у пункце 1 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 студзеня 1993 г. № 28 «Аб спагнанні збору за прастаўленне апастылю» словы: «10 працэнтаў» замяніць словамі «50 працэнтаў».

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

## ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Над маёй вярбою*
*Не шпакі кружаць:*
*Не ўзышло яшчэ*
*Сонца цёплае.*
*Над маёй вярбою*
*Груганы крычаць,*
*Прадракаючы*
*Зіму доўгую.*
*Дай нам, Божухна,*
*Ў шэрых прыцемках*
*Разгадаць усіх птах*
*Над сваёй страхою,*
*Асяняюць хай*
*Наш пакутны шлях*
*Крылы добрыя,*
*Песні светлыя.*



*З НАГОДЫ*

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ ВЫРАШАНА НЕ ПАДГАНЯЦЬ

**Праграма раздзяржаўлення і прыватызацыі на 1996 год не змяшчае канкрэтных лічбаў. Па меркаванню спецыялістаў Міндзяржмаёмасці, каманда-адміністрацыйны шлях у галіне прыватызацыі неразумны.**

За чатыры гады ў рэспубліцы змянілі форму ўласнасці каля 2 тысяч прадпрыемстваў. На 1 студзеня 1996 года было прыватызавана 407 прадпрыемстваў рэспубліканскай уласнасці і 1451 аб'ект камунальнай (1 студзеня 1995 года гэтыя паказчыкі былі 32 і 407 адпаведна).

Спецыялісты лічаць, што ўстанаўліваць кантрольныя лічбы не мае сэнсу: не надышоў той час, калі пераўтварэнне будзе адбывацца валявым рашэннем. Калектывы прадпрыемстваў павінны самастойна вызначыць момант прыватызацыі і яе спосаб. Так, паводле даных міністэрства, звыш 500 прадпрыемстваў рэспубліканскай і прыкладна столькі ж аб'ектаў камунальнай уласнасці маюць намер змяніць шыльду ў бягучым годзе.

Хаця дзяржава не будзе падштурхоўваць прадпрыемствы да адказнага кроку, у больш хуткіх тэмпах прыватызацыі яна зацікаўлена. Доля вытворчасці рэфарміраваных прадпрыемстваў пастаянна расце. За мінулы год, напрыклад, акцыянернымі таварыствамі (каля 500 прадпрыемстваў), на якія прыпадае дзесяці 7 працэнтаў асноўных сродкаў, выпушчана звыш 17 працэнтаў аб'ёму прамысловай прадукцыі. Таму праграма прыватызацыі на 1996 год складзена так, каб стымуляваць працоўныя калектывы да змены формы ўласнасці. Пры акцыяніраванні прадпрыемстваў з колькасцю працоўных 100 чалавек пакет акцый на першым этапе будзе поўнасцю належаць дзяржаве. На другім этапе члены працоўнага калектыву і асобы, прыраўнаваныя да іх, маюць права набываць акцыі як за грошы, так і за чэкі «Маёмасць». Прычым на працягу пяці месяцаў пасля рэгістрацыі акцый прадпрыемства для членаў працоўнага калектыву яны абыдуцца на 20 працэнтаў танней іх намінальнай вартасці. Колькасць акцый на аднаго чалавека абмяжоўваецца сумай у 100 мінімальных зарплат.

Палова сродкаў, атрыманых ад продажу акцый членам працоўнага калектыву, па рашэнню Кабінета Міністраў можа знаходзіцца ў распараджэнні прадпрыемства на працягу трох гадоў. Практычна дзяржава выдае прадпрыемству беспрацэнтны крэдыт на развіццё, папаўненне абаротных сродкаў і асваенне новай прадукцыі, вярнуць які патрэбна праз тры гады.

Па новай праграме прыватызацыі пакеты акцый прадпрыемстваў будуць выстаўляцца і на конкурсных інвестыцыйных таргах. Гэта дазволіць прыцягнуць сродкі на першапачатковым этапе пераўтварэння ўласнасці. Заснавальнікам АТ можа выступаць не толькі Міністэрства дзяржаўнай маёмасці, але і інвестары. Прычым праграмай прадугледжана магчымасць продажу аб'ектаў на конкурсе нават аднаму пакупніку пры ўмове выканання апошнім абавязацельстваў, у прыватнасці захаванне колькасці працоўных месцаў. (Адзначым, што раней адзін аб'ект мелі права купіць не менш як два інвестары.) Больш таго, пакупнік можа быць прадстаўніком іншай краіны.

У адпаведнасці з новым палажэннем бачыцца рэальным станоўчае вырашэнне лёсу «пілотнага» праекта — пакупка нямецкай фірмай «Нівенер» пакета акцый завода «Лідсельмаш». Як вядома, у мінулым годзе прадстаўнікі Міндзяржмаёмасці і фірмы з Германіі не знайшлі агульнай мовы — жаданне замежных інвестараў «хапнуць» 51 працэнт акцый не знайшло падтрымкі ў беларускага боку. Як адзначыў намеснік міністра Васіль Давыдзенка, сёння можна вярнуцца да размовы. Замежны інвестар пакуль ад ідэі не адмовіўся. Больш таго, жаданне пагаварыць на тэму «Лідсельмаша» выказаў яшчэ адзін пакупнік.

Па меркаванню спецыялістаў міністэрства, цягнік прыватызацыі пайшоў. З гэтай нагоды ўладальнікам чэкаў «Маёмасць» рэкамендуецца не спяшацца з іх укладаннем і асабліва продажам: на 1 студзеня ў Беларусі акцыяніравана ўсяго каля 10 працэнтаў прадпрыемстваў. Тэрмін абарачэння чэкаў скончыцца 1 ліпеня 1999 года. Да гэтага часу яшчэ многія прадпрыемствы зменяць форму ўласнасці. Так што выбар будзе.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

## «Званок» «Весту»

**ПАД ВЫГЛЯДАМ ВІНА ВІНАГРАДНАГА ГАНДЛЯВАЛІ «НАПОЕМ АЛКАГОЛЬНЫМ ГАЗІРАВАНЫМ (ШЫПУЧЫМ)»**

***Эканамічная санкцыя на суму 283,9 мільёна рублёў прыменена да гродзенскага гандлёва-вытворчага цэнтра «Вест». Галоўнае ўпраўленне Службы кантролю Прэзідэнта па Гродзенскай вобласці лічыць, што гэту фірму трэба пазбавіць ліцэнзіі на права гандлю алкагольнымі напоямі. Адпаведнае прадстаўленне накіравана ў гарвыканком.***

Першы «званок» прагучаў для «Веста» ў верасні леташняга года, калі яго аштрафавалі на 13,7 мільёна рублёў за рэалізацыю спіртнога без дакументаў аб якасці. Аднак неўзабаве камерсанты адважыліся на чарговую, прычым значна больш маштабную аферу, у якой былі задзейнічаны ажно 5584 бутэлькі віна вінаграднага пеністага «MaRiA Pia» і «Ives Roche» агульным коштам 182,1 мільёна рублёў. Дарэчы, дата вырабу гэтай прадукцыі невядомая, паколькі яна не пазначана ні на этыкетках бутэлек, ні на ўпаковачнай тары.

Што ж уяўляла сабой гэта «дабро», атрыманае ад мядзельскай фірмы «Тэхнагандаль»? Паводле вынікаў лабараторных выпрабаванняў, «MaRia Pia» (Італія) утрымлівае шкодныя для здароўя чалавека рэчывы, а масавая канцэнтрацыя сернай кіслаты больш чым удвая перавышае дапушчальную норму. А французскае «Ives Roche», аказваецца, зусім не віно вінаграднае пеністае, а напой алкагольны газіраваны (шыпучы) з пахам і смакам трапічных фруктаў. Вуглекіслата ў гэтым напітку ўтварылася не шляхам натуральнага браджэння, а ў выніку сатурацыі. Такая вось прымітыўная падробка!..

Што датычыць дакументаў аб якасці, дык тут усё было абстаўлена наступным чынам.

Спачатку, калі тавар апрыходаваўся «Вестам», сертыфікатаў увогуле не было. Пазней жа выкарыстоўваліся паперы, выдадзеныя Маладзечанскім цэнтрам стандартызацыі і метралогіі таксама на «Maria Pia» і «Ives Roche», але... іншай фірме. Трэба адзначыць, што кантралёры з Маладзечна не толькі не паставілі заслону на шляху «пойла» з гучнай назвай, а наадварот, садзейнічалі гэтай аферы.

Па-першае, пробы віна на прадмет наяўнасці таксічных рэчываў праведзены не ў поўным аб'ёме, масавая канцэнтрацыя сернай кіслаты ўвогуле не вызначалася. Па-другое, звяртае на сябе ўвагу дата выдачы сертыфіката на віно «Maria Pia» — 6 верасня, хаця ўзоры для пробы адбіраліся толькі 3 кастрычніка. Дарэчы, «ліпаваму» сертыфікату было дазволена дзейнічаць па 19 лістапада 1996 года, гэта значыць больш года, хаця тэрмін захоўвання віна не павінен быў перавышаць 6 месяцаў. Такім чынам, няякасная прадукцыя атрымала не толькі пуцёўку ў жыццё, але і спрыяльныя ўмовы для яе продажу.

Усё гэта было кваліфікавана як «халатныя адносіны да выканання службовых абавязкаў» спецыялістамі Цэнтра стандартызацыі і метралогіі. Інжынеру аддзела сертыфікацыі Н. Шатохінай аб'яўлена строгая вымова, начальнікам аддзелаў Т. Панковай і Т. Гасціловіч, вядучаму інжынеру Г. Фядосік — па вымове. Па вялікаму рахунку — гэта дробязь. Вось калі б знайшліся абураныя пакупнікі і запатрабавалі ад кантралёраў кампенсацыі, было б зусім інакш.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# *Жан-Луі ЛАРАН:* «ВЫБРАННЕ ПАРЛАМЕНТА АДКРЫЛА ДЛЯ ВАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ НОВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ Ў СУПРАЦОЎНІЦТВЕ З САВЕТАМ ЕЎРОПЫ»

***Два дні ў Мінску знаходзіўся Жан-Луі Ларан, намеснік дырэктара Палітычнага дэпартамента Савета Еўропы, каардынатар праграмы па супрацоўніцтву з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Перад адлётам у Страсбург, дзе знаходзіцца штаб-кватэра СЕ, пан Ларан даў эксклюзіўнае інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды».***

**— Пан Ларан, вы першы раз у Мінску?**

— Не, другі. Я ўжо наведваў вашу краіну ў лютым мінулага года. У гэты прыезд я застаў сапраўдную зіму: шмат снегу і сонца ў марозны дзень. Такой прыгажосці не ўбачыш у Страсбургу. Мне нават захацелася прыхапіць з сабой крыху вашага цудоўнага надвор'я.

**— І толькі?**

— Я павязу ў Страсбург мноства ўражанняў, шмат іншых рэчаў, пра якія я даведаўся за час знаходжання ў Мінску.

**— Якія мэты вашага візіту ў нашу краіну?**

— Галоўная мэта — абмеркаваць шляхі далейшага супрацоўніцтва Беларусі з Саветам Еўропы. На мой погляд, дні нашага знаходжання ў Мінску былі самым падыходзячым момантам для падобных перагавораў. Бо ваша краіна цяпер знаходзіцца на парозе новага этапа адносінаў з Саветам Еўропы. Ён звязаны з тым, што ў вас нарэшце выбраны парламент на дэмакратычнай аснове ў ходзе свабодных шматпартыйных выбараў.

Нягледзячы на тое, што прагучала невялікая крытыка вашага Закона аб выбарах з боку міжнародных назіральнікаў, яны, тым не менш, прыйшлі да высновы: выбары былі справядлівымі і легітымнымі. Гэтая ваша палітычная падзея стварыла аснову для далейшага развіцця і паскарэння супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Саветам Еўропы. Мэта яго дакладна вызначана: уступленне Беларусі ў Савет Еўропы на найлепшых умовах і ў самы бліжэйшы час.

У Мінску мне ўдалося сустрэцца з прадстаўнікамі ўсіх галін улады на максімальна магчымым высокім узроўні. Я меў гонар быць прынятым Сямёнам Шарэцкім, якога нядаўна абралі Старшынёй Вярхоўнага Савета.

Яшчэ я сустрэўся з прадстаўнікамі Адміністрацыі Прэзідэнта і кіраўніком Адміністрацыі Міхаілам Мясніковічам, міністрам замежных спраў Уладзімірам Сянько. Я меў таксама гутарку са старшынёй Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхіняй.

На ўсіх гэтых сустрэчах ішла размова наконт бліжэйшых крокаў у развіцці адносінаў вашай дзяржавы з Саветам Еўропы.

**— Як вы ацэньваеце той факт, што для работы па далучэнню Беларусі да Савета Еўропы ў нас створаны Міжведамасны савет па супрацоўніцтву з СЕ?**

— Я прыехаў у Мінск па запрашэнню віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча ўдзельнічаць у чацвёртым пасяджэнні Міжведамаснага савета. Пан Русакевіч якраз узначальвае гэты орган.

На мой погляд, стварэнне і плённая дзейнасць Міжведамаснага савета — самае галоўнае дасягненне вашай краіны на шляху ўступлення ў Савет Еўропы і мае важнае значэнне для паляпшэння супрацоўніцтва Беларусі з гэтай еўрапейскай палітычнай арганізацыяй. Ужо шмат зроблена яго членамі. Я сам пераканаўся ў гэтым. У прыватнасці, у час яго пасяджэння мы «прайшліся» па праграме супрацоўніцтва Беларусі з СЕ на 1996 год, абмеркавалі яго прыярытэты і прыйшлі да згоды наконт іх.

Адной з галоўных умоў уступлення дзяржавы ў Савет Еўропы з'яўляецца падпісанне ёю Еўрапейскай канвенцыі па ахове правоў чалавека і асноўных свабод. Беларусь, як краіна-прэтэндэнт, павінна быць гатовай да гэтага. Таму першы прыярытэт: аналіз заканадаўства Беларусі на прадмет яго адпаведнасці гэтай канвенцыі.

Другі — экспертыза Саветам Еўропы асноўных заканадаўчых актаў вашай дзяржавы: Крымінальнага і Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў, законаў аб судовым ладзе і статусе суддзі, мясцовым самакіраванні і іншых.

Трэці — магчымае далучэнне Беларусі да дагаворна-прававых дакументаў Савета Еўропы, што спросціць уваходжанне вашай дзяржавы ў юрыдычную сістэму СЕ, дазволіць хутчэй адаптавацца да яго юрыдычных механізмаў.

Мы абмеркавалі шэраг еўрапейскіх канвенцый, якія Беларусь мае намер падпісаць у будучым. Яны датычаць культуры, адукацыі, культурнай спадчыны, юрыдычнага супрацоўніцтва і юрыдычнай дапамогі, барацьбы з эканамічнымі злачынствамі.



**У час сустрэчы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага з прадстаўнікамі Савета Еўропы.**

**Фота БЕЛТА.**

Так што чацвёртае пасяджэнне Міжведамаснага савета было выніковым. Я ўпэўнены: яго старшыні Уладзіміру Русакевічу будзе пра што расказаць у Страсбургу, куды яго запрасіла кіраўніцтва нашай арганізацыі прыехаць на наступным тыдні.

**— Ці аднолькава аб'ектыўна Савет Еўропы падыходзіць да прыёму новых членаў? Мне здаецца, што часам палітычныя інтарэсы бяруць верх пры вызначэнні чарговасці прыняцця той ці іншай дзяржавы. Я маю на ўвазе прыбалтыйскія краіны, дзе парушаюцца правы рускамоўнай меншасці. У Расіі ўвогуле ідзе грамадзянская вайна, а яна хутка стане членам СЕ. Гэта што, двайны стандарт у падыходзе да розных дзяржаў?**

— Дарэмна вы так кажаце. Мы ў Страсбургу не гуляем у двайны стандарт. Нагадаю: пры прыняцці ў свой састаў новай краіны там зыходзяць з трох пунктаў: наяўнасці плюралістычнай дэмакратыі, абароны правоў чалавека і захавання законнасці. Калі мы пераканаены ў тым, што гэтыя асноватворныя палажэнні не проста дэкларуюцца ў дадзенай краіне, а з'яўляюцца сутнасцю яе жыцця, то яна прымаецца ў Савет Еўропы.

Заўважу, СЕ — гэта палітычная арганізацыя. Таму і рашэнне аб прыёме новай дзяржавы — гэта таксама палітычнае рашэнне, якое рыхтуюць палітычныя органы.

Так, Беларусь трохі адстала па працэдуры прыняцця ў Савет Еўропы. Але гэта адбылося з-за таго, што ў вас не быў своечасова выбраны парламент на дэмакратычнай аснове. Паўтаруся, наяўнасць падобнага заканадаўчага органа вельмі паважаецца ў Страсбургу, лічыцца там галоўным аб'ектыўным крытэрыем гатоўнасці краіны быць прынятай у арганізацыю. Цяпер, калі ваш парламент працуе, я магу з упэўненасцю сказаць, што працэс прыняцця Беларусі значна паскорыцца.

Дадам, што Беларусь, у адрозненне ад іншых краін рэгіёна, не мае вельмі сур'ёзных праблем: этнічных, нацыянальных, тэрытарыяльных прэтэнзій да сваіх суседзяў. Гэта ўсё станоўчыя фактары.

Што датычыць балтыйскіх краін, то я не згодны з тым, як вы ў сваім пытанні прадставілі сітуацыю. Так, ёсць пэўныя цяжкасці, але яны з'яўляюцца гістарычнай спадчынай. І адказнасць за іх зусім не ляжыць на балтыйскіх дзяржавах. Дарэчы, за сітуацыяй там Савет Еўропы назірае і сёння, ён актыўна і інтэнсіўна працуе з іх уладамі, каб палепшыць становішча. Напрыклад, СЕ шмат прыклаў намаганняў, дапамагаючы краінам Прыбалтыкі ў выпрацоўцы законаў аб грамадзянстве. Савет Еўропы зрабіў усё, каб там здолелі пазбегнуць сур'ёзных праблем. Цяпер мы распрацоўваем сумесна з Латвіяй і Эстоніяй праграму па інтэграцыі нацыянальных меншасцей, у тым ліку і рускамоўнага насельніцтва. Мы працуем таксама з прыбалтыйскімі дзяржавамі ў галіне адукацыі, адміністрацыйнага права, правоў нацыянальных меншасцей.

**— У чым Савет Еўропы разыходзіцца з прадстаўнікамі ўладаў нашай дзяржавы ў ацэнцы ступені гатоўнасці Беларусі да ўступлення ў гэту арганізацыю?**

— Мне не хацелася б у адказе на гэтае пытанне аперыраваць паняццем «ступень гатоўнасці». Думаю, што і мы ў Страсбургу, і вы ў Беларусі добра ўяўляем тое, што нам трэба зрабіць. Кожны павінен выканаць сваю частку работы. Але большасць працы ўсё ж прыпадае на беларускі бок. Таму што не Савет Еўропы будзе рэфарміраваць ваша нацыянальнае заканадаўства, а вы. Наша задача — ацаніць гэтыя рэформы. Аднак СЕ не абмяжоўваецца іх ацэнкай, ён можа ўнесці свой уклад у гэтыя рэформы шляхам дапамогі, арганізацыі семінараў, сустрэч экспертаў і г.д.

Момант прыняцця Беларусі будзе ў многім залежаць ад намаганняў вашых уладаў. У час майго візіту адзін высокапастаўлены субяседнік гаварыў мне аб павольным, але пастаянным прагрэсе ў гэтым накірунку. Мы з ім пагадзіліся ў тым, што працэс гэты павінен быць пастаянным, але не такім марудным.

**— Наша дзяржава перажывае зараз складаны і цяжкі пераходны перыяд. Палітычнае жыццё ў нас часам запавольваецца, а іншы раз так імкліва развіваецца, што нават нашы жыхары не паспяваюць сачыць за іх ходам. Ці заўсёды ў СЕ добра разумеюць тое, што тут у нас адбываецца? З якіх крыніц вы чэрпаеце інфармацыю пра Беларусь?**

— Хачу сказаць, што інфармацыі ніколі не бывае дастаткова. Але мы імкнёмся быць як мага лепш інфармаванымі аб вашай дзяржаве. Вельмі карыснымі з'яўляюцца візіты прадстаўнікоў СЕ на Беларусь, у ходзе якіх мы атрымліваем свежую інфармацыю з першых рук, маем магчымасць адчуць развіццё палітычнай сітуацыі.

Важная крыніца — візіты вашых дэлегацый у Страсбург. Мы таксама маем кантакт з беларускімі няўрадавымі арганізацыямі, асацыяцыямі, рухамі па абароне правоў чалавека. Інфармацыя з розных крыніц дапамагае нам лепш разбірацца ў падзеях на Беларусі. Але ўсё роўна нам не хапае інфармацыі.

Таму ў час пасяджэння Міжведамаснага савета мы дамовіліся аб больш шырокім абмене інфармацыяй паміж Беларуссю і Саветам Еўропы. Каб паспяхова супрацоўнічаць, мы павінны лепш ведаць адзін аднаго. Мы ў Страсбургу маем вялікую патрэбу ў праўдзівай і разнастайнай інфармацыі аб вашай краіне. Думаецца, што прыбыццё невялікай пастаяннай місіі Беларусі ў Страсбург адыграла б у гэтай справе станоўчую ролю. У сваю чаргу мы з разуменнем ставімся да прапановы вашага боку аб адкрыцці ў Мінску інфармацыйнага цэнтра дакументацыі Савета Еўропы.

**— Калі рэальна Беларусь можа быць прынята ў Савет Еўропы?**

— Мне не хацелася б гаварыць аб канкрэтнай даце. Бо кожны раз, калі мы ў Страсбургу спрабуем скласці каляндар мерапрыемстваў па ўступленню дзяржаў у Савет Еўропы, дык чамусьці заўсёды атрымліваецца памылка ў часе. Таму не чакайце, што я пападуся на гэту вудачку. Але мушу сказаць, што 1996-ы ў любым выпадку будзе рашаючым годам для Беларусі ў яе адносінах з СЕ.

**— Ну, калі гэта важная падзея здарыцца сёлета, то, калі ласка, некалькі слоў пра самую працэдуру прыняцця ў Савет Еўропы.**

— У час сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім я параіў, што ў першую чаргу варта было б хутчэй назначыць пастаянную дэлегацыю вашага ВС на Парламенцкую асамблею Савета Еўропы. Пра гэта я гаварыў і іншым маім субяседнікам у Мінску. Бо цяпер асноўная праца будзе весціся ў рамках асамблеі, яе галоўных камітэтаў. Вельмі важна, я сказаў бы, надзвычай важна, каб беларускія парламентарыі часцей там бывалі, удзельнічалі ў іх пасяджэннях. Яны павінны сачыць за тым, каб заяўка аб прыёме Беларусі была ў рабоце.

Наступны крок працэдуры — накіраванне ў Мінск двух экспертаў-юрыстаў: суддзі Еўрапейскага суда па правах чалавека і члена Еўрапейскай камісіі па правах чалавека. Яны правядуць шэраг сустрэч з прадстаўнікамі вашых уладаў, каб таксама падрыхтаваць даклад аб стане заканадаўства Беларусі ў параўнанні з існуючымі еўрапейскімі стандартамі і нормамі. Гэты дакумент вызначыць сферы, у якіх існуюць праблемы, дзе патрэбны рэформы. Даклад стане асновай работы для трох дакладчыкаў з Парламенцкай асамблеі. Яны ў сваю чаргу таксама наведаюць вашу сталіцу з мэтай вывучэння сітуацыі ў краіне. Прыедуць у Мінск і прадстаўнікі галоўных камітэтаў асамблеі.

Дакладчыкі падрыхтуюць свой даклад, які пасля адабрэння яго ў камітэтах ужо трапіць на пленарнае пасяджэнне Парламенцкай асамблеі. Затым меркаванне асамблеі вывучыць Камітэт міністраў. І калі яго рашэнне будзе станоўчым, то Беларусь атрымае запрашэнне на ўступленне ў Савет Еўропы.

Ваш міністр замежных спраў наведае Страсбург і падпіша Статут Савета Еўропы.

Вось і ўся працэдура. Праз яе праходзяць усе кандыдаты на членства ў Савет Еўропы.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*ЦЭНЫ*

## КОШТ МЫЦЦЯ БЯЛІЗНЫ ЗАЛЕЖЫЦЬ НЕ ТОЛЬКІ АД ЯЕ ВАГІ

Калі меркаваць па ўчарашніх цэнах, то памыць бялізну (пры ўмове, што яе ж, але ўжо чыстую, вернуць недзе праз два тыдні) можна па цане 8200 рублёў за 1 кг. І ніякіх табе клопатаў.

А калі з клопатамі, то звяртайцеся ў пральні самаабслугоўвання. Ідучы туды, не забудзьцеся ўзяць свой парашок. Кошт мыцця ў звычайных гарадскіх пральнях, як правіла, аднолькавы — 57.300 рублёў за 10 кг бруднай бялізны. Старайцеся меней пэцкаць — танней абыдзецца. Праўда, месцамі за тыя ж 10 кг бяруць і 55.000, і нават 45.800 рублёў. Танней за ўсё абыходзіцца мыццё бялізны ў заводскіх пральнях (так што лічыце, гаспадыні, шукайце выгаду) — 45.000 і нават 32.000 рублёў (розніца ўражвае і прымушае нас трымаць месца гэткага таннага мыцця ў вялікім сакрэце. Але, паверце, што такая пральня ў горадзе Мінску ёсць).

Калі ж раптам бруднай бялізны ў вас збярэцца крыху болей (а месцамі прымаюць выключна па 12 кг), то заплаціць давядзецца 68.700 рублёў (не забывайцеся: парашок зноў жа бярыце з дому!).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПАЛІВА ТАННЕЕ?

**У сувязі з павышэннем закупачных цэн на мяса Мінскі аблсельгасхарч пераглядае дагаворы з камерцыйнымі і дзяржаўнымі пасрэдніцкімі арганізацыямі аб пастаўках гаручага.**

Калі раней гаспадаркі вобласці атрымлівалі па бартэру за адзін кілаграм ялавічыны 9,5 кілаграма дызельнага паліва, то цяпер — ад 10 да 10,2. Дакладная лічба будзе вызначана ў ходзе тэндэрных таргоў. Як вядома, бартэрныя пастаўкі забяспечваюць да 30 працэнтаў гадавой патрэбнасці вобласці ў гаручым.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## КАРАЛЕВА БЕАТРЫКС СУСТРЭЛАСЯ З БЕЛАРУСКІМ ПАСЛОМ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Лабуноў 17 студзеня ўручыў даверчыя граматы каралеве Нідэрландаў Беатрыкс.**

Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі МЗС рэспублікі. Такім чынам, пасольства Беларусі ў Бруселі цяпер акрэдытавана ва ўсіх краінах Бенілюкса — Каралеўстве Бельгія, Каралеўстве Нідэрландаў і Вялікім Герцагстве Люксембург.

У ходзе гутаркі, праведзенай у афіцыйнай рэзідэнцыі каралевы Беатрыкс, былі абмеркаваны пытанні далейшага развіцця адносінаў паміж Беларуссю і Нідэрландамі, перспектыўныя напрамкі гандлёва-эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага супрацоўніцтва.

**БЕЛТА.**

## ПЕРШЫ МЕСЯЦ: СТАНОВІШЧА НА ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ РЭСПУБЛІКІ ГЭТКАЕ Ж ХІСТКАЕ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Не намнога лепш пачалі год і на іншым гіганце — Мінскім аўтамабільным заводзе, у якога не менш сумежнікаў і на якім таксама былі наладжаны невялікія, пад Раство, канікулы.

Між іншым, да кіраўніцтва заводам ніяк не могуць прызначыць новага генеральнага дырэктара, што, вядома ж, таксама не лепшым чынам уплывае на становішча спраў...

Як неаднойчы ўжо даводзілася, сёлета ў прамысловасці, згодна з прагнознымі паказчыкамі, мяркуецца захаваць мінулагодні ўзровень. У Міністэрстве прамысловасці адносна мінулагодняга ўзроўню па выніках першага месяца катэгарычна не настойвалі, толькі зазначылі: студзень і першы квартал — традыцыйна цяжкія. Але можна меркаваць, што аб'ёмы вытворчасці знізяцца яшчэ больш. Тыя ж канікулы былі наладжаны і на многіх іншых прадпрыемствах.

Вынікамі першага месяца, відаць, не змогуць пахваліцца і мінскія мотавелазавод, падшыпнікавы, завод шасцерняў, маторны, «Інтэграл», «Гарызонт»... Як адзначалася ўжо раней у нашай газеце, многія прадпрыемствы нават не могуць выплаціць у поўным аб'ёме людзям зарплату. Ажыўленне вытворчасці ў Расіі пакуль што не пацягнула за сабой нашу вытворчасць, на што спадзяваліся многія. І наўрад ці пацягне, нагадаем: у Расіі пераважна рэфармiраваная эканоміка, у нас — не, а ў такім разе ім нялёгка знайсці агульную мову...

Крызіс збыту, аб якім часта ўзгадвалася раней, усё больш ускладняецца крызісам плацяжоў, вострым недахватам абаротных сродкаў. Прадпрыемствам не хапае іх, каб разлічыцца за самае неабходнае, поўнасцю аддаць тую ж зарплату (цяпер дзейнічае распараджэнне аб абавязковым браніраванні і выплаце так званага пражытачнага ўзроўню. Але што гэта за ўзровень, які складае ці, ва ўсякім разе, складаў да нядаўняга часу каля 500 тысяч рублёў?).

Многія ўсё больш і больш абрастаюць даўгамі, за якія наўрад ці змогуць і разлічыцца (напрыклад, у «Белэнерга» зусім слаба спадзяюцца на тое, што калі-небудзь верне яму вялізны доўг трактарны). Згодна з данымі міністэрства прамысловасці, крэдыторская запазычанасць падведамных яму прадпрыемстваў складае 7 трыльёнаў рублёў, гэта значыць, што два—два з паловай месяцы ім трэба працаваць на адны даўгі. Абаротныя сродкі ў многіх вымелі чыста фіскальная падатковая палітыка дзяржавы, непамерная плата за энергарэсурсы, утрыманне на прадпрыемствах вялікай арміі, па сутнасці, беспрацоўных, а таксама аб'ектаў сацыяльнай сферы. А некаторыя прадпрыемствы дадаткова падкасіў у свой час і знакаміты клірынг, якім гэтак ганарыліся ранейшыя кіраўнікі ўрада (зрэшты, некаторыя пры кіраўніцтве і цяпер).

Пра скрытае беспрацоўе — асобная размова. Яно, па сведчанню спецыялістаў, складае на прадпрыемствах да 40 працэнтаў. Зразумелым было ранейшае жаданне іх кіраўнікоў не звальняць людзей, але цяпер дайшло да крайняй мяжы, і многія гатовы пайсці на масавыя звальненні. Адпаведны крок зрабілі нядаўна на «Інтэграле» і тут жа, як кажуць, былі пастаўлены на месца. Карацей, адносна скарачэнняў дзейнічае папярэджанне выканаўчай улады, сутнасць якога можна звесці да наступнага: не трэба рабіць гэтага, інакш будзе дрэнна... Толькі ж далёка не лепш і ў адваротным выпадку. Што рабіць? Невядома.

Можна толькі канстатаваць: дзяржава ў выніку такой палітыкі, па сутнасці, ухіляецца ад праблем занятасці, перакладвае іх на тыя ж прадпрыемствы. Між іншым, па звестках, адзін з прэтэндэнтаў на пасаду генеральнага дырэктара МАЗа паставіў умовай свайго прыходу да кіраўніцтва 40-працэнтнае скарачэнне колькасці людзей на заводзе... Вядома, праблема гэта нялёгкая, справа датычыць людзей, але і рабіць выгляд, што яе не існуе, перакладваць усё на прадпрыемствы, якія выдыхаюцца і, адпаведна, не могуць маніпуляваць рэсурсамі, — не лепшы выхад. У сувязі з гэтым таксама варта заўважыць: праблему занятасці ў многім дапамагло б зняць развіццё малога бізнесу і прадпрымальніцтва, але, вось бяда, ужо самі гэтыя паняцці нямала ў каго з тых, хто ўладу мае (ды, урэшце, нярэдка і ў так званага простага чалавека) выклікаюць алергію.

Маючы на ўвазе крайне нялёгкае становішча на прадпрыемствах, у першую чаргу фінансавае, Міністэрства прамысловасці падрыхтавала пакет мераў, накіраваных на іх аздараўленне. Далёка не ўсё можна прыняць у гэтых мерах, у якіх гэтак моцна гучыць думка аб узмацненні дзяржаўнага рэгулявання (спытаць, а чым жа яшчэ займалася міністэрства, як не тым жа рэгуляваннем, і які вынік?), але галоўную ідэю наконт адтэрміноўкі ранейшых даўгоў і плацяжоў варта прыняць. Такая мера ажывіла б вытворчасць, хоць, вядома, карэнны выхад — у яе хутчэйшым рэфармiраванні і менавіта ў максімальным вызваленні з-пад дзяржаўнай апекі.

А пакуль што ўрад, відаць, вырашыў звярнуцца да старых выпрабаваных метадаў: як паведамілі ў БНПА, становішча спраў на некаторых буйных мінскіх прадпрыемствах прызначаны кантраляваць упаўнаважаныя, віцэ-прэм'еры...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА СНЕЖАНЬ 1995 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў снежні 1995 года ў параўнанні з лістападам 1995 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 108,9 працэнта.

У параўнанні са снежнем 1994 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 3,4 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

### Каментарый да паведамлення Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь аб індэксе спажывецкіх цэн за снежань 1995 года

Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што, паколькі індэкс спажывецкіх цэн, вылічаны нарастаючым вынікам з моманту папярэдняй індэксацыі, не перавысіў пяціпрацэнтнага парога (103,9 працэнта), даходы насельніцтва за снежань мінулага года, атрымліваемыя з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата, грашовае забеспячэнне), індэксуюцца на 48,4 працэнта з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт прыросту спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 120.000 рублёў — 1 працэнт,

ад 120.001 да 240.000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, якая перавышае 240.000 рублёў, не індэксуецца.

Грашовыя кампенсацыі, прадугледжаныя пастановамі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. №7 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян» і ад 28 лютага 1995 г. № 106 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва», індэксацыі не падлягаюць.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Пры гэтым выплаты кампенсацыі ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца асобна ад іншых даходаў, незалежна ад таго, прадугледжана або не прадугледжана такое палажэнне ў калектыўным дагаворы (пагадненні).

**ПАВЕДАМЛЕННЕ**
**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь**

### АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ ПРАДУКЦЫІ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА СНЕЖАНЬ 1995 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў снежні ў параўнанні з лістападам 1995 года індэкс цэн вытворцаў прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 101,5 працэнта, у параўнанні са снежнем 1994 года — 215,3 працэнта.

## У інвалідаў з'яўляецца шанц

**22 студзеня на базе Беларускага навукова-даследчага інстытута экспертызы працаздольнасці і арганізацыі працы інвалідаў адкрыецца першы ў рэспубліцы эксперыментальны Цэнтр перанавучання інвалідаў на прэстыжную і патрэбную ў сучасных умовах спецыяльнасць — менеджэр у гандлёвай сферы.**

Неабходнасць у такога роду ўстанове ўзнікла даўно, бо пражыць інваліду на жабрацкую пенсію ў наш час амаль немагчыма. Знайсці працу, каб зарабіць на жыццё, інваліду таксама цяжка, тым больш калі ён не мае патрэбнай спецыяльнасці. Тым, хто можа і хоча працаваць, трэба дапамагчы. Да таго ж працаўладкаванне інвалідаў дазволіць «разгрузіць» бюджэт і за кошт памяншэння пенсій працуючым інвалідам павысіць яе тым, хто не можа працаваць, застаецца сам-насам з хваробай, мноствам жыццёвых клопатаў і мізэрнай пенсіяй. Вырашэнне праблемы працаўладкавання інвалідаў з'яўляецца галоўнай задачай цэнтра. Ён адкрые новую старонку ў рэфармiраванні сістэмы сацыяльнай абароны інвалідаў.

На ўрачыстую цырымонію адкрыцця цэнтра, якая адбудзецца 21 студзеня 1996 года ў Мінску, прыбудзе група спецыялістаў з Германіі на чале са статссакратарам федэральнага Міністэрства працы і сацыяльнага парадку ФРГ, членам Германскага бундэстага спадаром Рудольфам Краўсам. Падчас знаходжання ў Беларусі члены дэлегацыі сустрэнуцца з намеснікам прэм'ер-міністра У. Русакевічам, міністрам сацыяльнай абароны В. Даргель, кіраўнікамі міністэрстваў аховы здароўя, адукацыі, працы і абмяркуюць з імі перспектывы супрацоўніцтва ў галіне сацыяльнай абароны інвалідаў.

Беларускі навукова-даследчы інстытут экспертызы, працаздольнасці і арганізацыі працы інвалідаў ужо на працягу 5 гадоў актыўна супрацоўнічае з Бонскім неўралагічным рэабілітацыйным цэнтрам, а з 1995 года — і з Дортмундскім цэнтрам перанавучання інвалідаў. Дзякуючы супрацоўніцтву ў рамках рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграмы «Рэабілітацыя» ўдалося распрацаваць і пачаць увядзенне ў практыку новай тэхналогіі — медыка-прафесіянальнай рэабілітацыі інвалідаў. Для развіцця гэтага напрамку інстытуту нямецкім бокам пастаўлена дыягнастычнае і рэабілітацыйнае абсталяванне на 465 тысяч марак. Адбор кандыдатаў на навучанне праводзіўся на працягу II—IV кварталаў 1995 года спецыялістамі БНДІЭПІНа. Адабраны 24 навучэнцы і некалькі кандыдатаў. Сярод іх тры інваліды I групы, астатнія — II і III груп інваліднасці. Трое інваліднасці не маюць, але страцілі прафесію па хваробе. Тэрмін навучання ў новым цэнтры — 18 месяцаў.

Паспяховасць навучання з далейшым уладкаваннем на прэстыжную, добра аплачваемую працу дазволіць на практыцы даказаць тэарэтычныя распрацоўкі БНДІЭПІНа, якія сцвярджаюць, што не менш як 10 тысяч чалавек, якія штогод упершыню выходзяць на інваліднасць (у 1994 годзе іх была 81 тысяча), могуць і павінны быць вернуты да працы. Гэта дазволіць зусім па-новаму вырашаць праблемы сацыяльнай абароны інвалідаў, дасць ім шанц самім зарабіць на прыстойнае жыццё.

**Сяргей ПРОТАС.**

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

● **РАСІЙСКІ БОК НЕ ІДЗЕ НА ВЫЗВАЛЕННЕ ЗАЛОЖНІКАЎ**

У сераду ўначы група баевікоў (каля 70 чалавек) зрабіла спробу вырвацца з сяла Першамайскага. Адначасова з гэтым падраздзяленні чачэнцаў напалі на знешняе кальцо блакіравання з боку населенага пункта Савецкае. Па інфармацыі расійскага боку, у ходзе бою, які працягваўся чатыры гадзіны, частка баевікоў знішчана, астатнія вярнуліся на зыходныя пазіцыі. Аднак, як паведаміла Бі-бі-сі, гэта не адпавядае рэчаіснасці.

На думку яе карэспандэнта, атака сяла з ракетных установак «Град» сведчыць аб прызнанні расійскім кіраўніцтвам паражэння сваёй палітыкі ў адносінах да падзей у Першамайскім. У афіцыйных заявах больш не гаворыцца аб вызваленні заложнікаў, у іх сказана толькі аб намаганнях па абмежаванню страт расійскага боку. Паток параненых расійскіх вайскоўцаў сведчыць аб заніжэнні колькасці сапраўдных страт федэральных войскаў. Згодна з адным з паведамленняў ІТАР—ТАСС, некалькім баевікам удалося вырвацца ў сераду ноччу з акружэння. У той час, як расійскія ўлады паведамляюць, што заложнікаў у жывых больш не засталася і з Першамайскага больш ніхто не выйдзе, міністр інфармацыі ва ўрадзе Дудаева Удугаў паведамляе, што жывыя заложнікі ў сяле засталіся. Ён зазначае, што баевікі згодны адпусціць астатніх заложнікаў, каб захаваць уласнае жыццё, аднак расійскі бок ігнаруе іх прапановы.

**P.S.** Як заявіў прэзідэнт Расіі Ельцын, на 18 гадзін аперацыя ў Першамайскім была завершана.

● **ТЭРАРЫСТ ПАМЁР У БАЛЬНІЦЫ**

Высветлена асоба тэрарыста, які ў сераду зрабіў спробу захапіць у якасці заложнікаў 23 сургуцкіх нафтавікоў. Ім аказаўся 23-гадовы Максім Белаазёраў, ураджэнец горада Фрунзе. Апошнім часам ён працаваў экспедытарам малога прадпрыемства. Белаазёраў знаходзіўся пад следствам за разбой. У выніку аперацыі па абясшкоджанню тэрарыста, якую правёў мясцовы спецназ, усе заложнікі вызвалены, ніхто не пацярпеў, а тэрарыст памёр у бальніцы ад атрыманых раненняў.

● **ПЕРАВЯРНУЎСЯ КАРАБЕЛЬ ВМС ГЕРМАНІІ**

Ваенны карабель германскіх ВМС перавярнуўся ўчора ноччу ў плывучым доку ў горадзе Брэмене. Дэталі высвятляюцца. Трое ахоўнікаў, якія знаходзіліся на борце фрэгата, атрымалі лёгкія раненні.

● **МАГЧЫМА, ПРЫЛАЖЫЎ РУКУ БАСАЕЎ**

Паром «Аврасія», які захапіла група тэрарыстаў у турэцкім порце Трабзон, двое сутак рухаўся ўздоўж чарнаморскага ўзбярэжжа Турцыі да порта Стамбул і ў другой палове дня быў ужо на падыходзе да Басфорскага праліва. Турэцкія ўлады не чыняць перашкод руху парома пасля таго, як кіраўнік баевікоў паабяцаў кіраўніку турэцкай разведкі адпусціць усіх заложнікаў у Стамбульскім порце, калі яму будзе дадзена магчымасць правесці прэс-канферэнцыю. Як і раней, судна суправаджаюць два турэцкія катэры берагавой аховы. Сталі вядомы падрабязныя даныя аб лідэру тэрарыстаў Мухамедзе Тархкчане. Абхазец па нацыянальнасці, ён з'яўляецца грамадзянінам Турцыі. Па прафесіі Тархкчан слесар, прайшоў тэрміновую службу ў турэцкай арміі. Басаеў і Тархкчан на некаторых фотаздымках зняты разам. Фотаздымкі, як мяркуецца, зроблены ў Абхазіі.

● **З МІЛЫМ РАЙ І Ў ШАЛАШЫ**

50-гадовы іранец Махамед Нікдэль мае 12 жонак і 20 дзяцей. У трыццацігадовым узросце ён ажаніўся першы раз, а ў гэтым годзе — дванаццаты. Сям'я жыве ў дванаццаціпакаёвай кватэры, якая ёй яўна малавата. Зарабляе Нікдэль не вельмі шмат, і таму рацыён сям'і небагаты — у асноўным хлеб у выглядзе праснакоў, якіх ён купляе па 120 кожны дзень. Нягледзячы на гэта, за ўвесь час сямейнага жыцця не адбылося ніводнай сваркі між жонкамі.

● **50 ЧАЛАВЕК ЗАГІНУЛІ**

Каля 50 пасажыраў загінулі ў выніку сутыкнення парома з танкерам на поўдні Бангладэш. Прычыны трагедыі высвятляюцца. Па паведамленнях з гэтай краіны, сутыкненне адбылося на рацэ Мекхна.

● **НОВАЯ «ЗБРОЯ» ПАЛІЦЫІ**

Японскі цырульнік Кумамота ледзь не атрымаў разрыў сэрца, калі ўбачыў на парозе свайго дома ў горадзе Кобэ трохметровага пітона. Спачатку ён не паверыў сваім вачам, таму што жыве ён у самым цэнтры залітага асфальтам горада, ды і наогул такія вялікія змеі ў Японіі не водзяцца. Паліцэйскія, якіх выклікалі на дапамогу, пасялілі пітона ва ўчастку, відаць для запалохвання мясцовых злачынцаў.

*Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.*

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Улады горада Шэньчжэнь, цэнтра аднайменнай спецэканомзоны на поўдні КНР, разгарнулі масавую кампанію па знішчэнню пацукоў і мышэй. Акрамя антысанітарыі, яны наносяць велізарны матэрыяльны ўрон. Так, аказаўся загаджаным комплекс імпартнага медыцынскага абсталявання. Дэзінфекцыя яго абышлася муніцыпальным уладам у 8 мільёнаў юаняў (каля 1 мільёна долараў).

Кінуўшы заклік «Бі пацукоў!» улады паабяцалі выплачваць па 5 юаняў (каля 60 цэнтаў) за кожную знішчаную жывёліну. Аднак з-за забабонаў мясцовыя жыхары не спяшаюцца здаваць на прыёмныя пункты гэтых грызуноў. Згодна з тысячагадовымі паданнямі, расплатай за паляванне на пацукоў можа стаць цэлы воз няшчасцяў у наступным месячным годзе.

**ІТАР—ТАСС**

*Ніколі раней не ўмеў гаварыць італьянец Фабрыцый Рыноры, паколькі на свет з'явіўся з сур'ёзным пашкоджаннем галаўнога мозгу. Нягледзячы на гэта, ён выдатна прыстасаваўся да жыцця ў грамадстве і нават больш таго — дзякуючы сваёй фізічнай сіле стаў нядрэнным рэгбістам. Нядаўна 21-гадовы спартсмен прымаў удзел у спаборніцтвах, якія праходзілі ў яго родным горадзе Прато, — і раптам пасля спрэчнага рашэння, якое вынес суддзя, на вялікае здзіўленне сяброў па камандзе, загаварыў. Не адважваемся прывесці першыя ў яго жыцці словы, звернутыя да суддзі, — ад іх, як кажуць, вушы вянуць.*

**«Не можа быць».**

Ракавым стала незвычайнае хобі для маладога жыхара горада Коркіна Чэлябінскай вобласці, які, ап'янеўшы, пустыя бутэлькі разбіваў аб уласную галаву. На ёй, як ні дзіўна, не заставалася ні драпіны.

Гэтымі днямі «фокуснік» добра выпіў і па традыцыі разбіў аб галаву адну за адной чатыры бутэлькі. На наступны дзень паскардзіўся на моцны боль, аднак да ўрача не звярнуўся. Ноччу яму стала дрэнна. Ён страціў прытомнасць і быў дастаўлены ў бальніцу.

Нягледзячы на тэрміновую аперацыю, выратаваць яго не ўдалося — закрытая чэрапна-мазгавая траўма аказалася смяротнай.

**ЕАН.**

## ЛІТОЎСКАМУ ПРЭМ'ЕРУ ПАГРАЖАЕ СУД

**Кіраўнік фракцыі «Цэнтр» сейма Літвы Рамуальдас Азалас звярнуўся ў пракуратуру з патрабаваннем узбудзіць супраць прэм'ер-міністра рэспублікі Адольфаса Шлежавічуса крымінальную справу.**

Такое рашэнне дэпутат матывуе тым, што прэм'ер, выкарыстаўшы сваё службовае становішча, атрымліваў больш высокія працэнты па свайму ўкладу ў Камерцыйным інавацыйным банку, а даведаўшыся аб яго банкруцтве, грошы забраў.

Калі пракуратура ўстановіць факт злоўжывання з боку А. Шлежавічуса сваім службовым становішчам, то яму пагражае пазбаўленне волі да 4 гадоў.

Адказ на заяву Р. Азаласа пракуратура паведаміць у бліжэйшы час.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**

**На здымку:** від на Гамбург, порт і раку Эльбу. Сёлета паўночнагерманскі партовы горад стане рэзідэнцыяй Марскога суда ААН.

Падрыхтоўка да стварэння гэтай установы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на тэрыторыі Германіі ідзе поўным ходам: на ўскрайку парка над ракой Эльбай у Гамбургу прадстаўнікі ААН, федэральнага ўрада Германіі і ганзейскага горада Гамбурга правялі цырымонію адкрыцця шчыта з паведамленнем аб тым, што на гэтым месцы будзе ўзведзены комплекс будынкаў Міжнароднага марскога суда, задачай якога будзе з'яўляцца вырашэнне пытанняў прымянення Міжнароднай канвенцыі аб марскім праве ад 1982 г.

**Фота Інтэр Нацыёнес/***Гамбург.*

## КОЛЬКІ КАШТУЕ БІЛЕТ НА БАЛЕТ?

**Класік сцвярджаў, што мастацтва павінна належаць народу. Але наколькі даступнае яно сёння для простага люду? Гэтае пытанне паспрабаваў высветліць наш карэспандэнт.**

Самым дарагім задавальненнем для жыхароў Беларусі стане знаёмства з рэпертуарам знакамітага тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор» — ад 16 да 35 тысяч за білет. Бадай, не кожны дазволіць сабе і наведванне Акадэмічнага тэатра оперы і балета. Тут, у залежнасці ад месца, прыйдзецца выкласці ад пяці да дваццаці пяці (а на прэм'ерных паказах і ўсе трыццаць) тысяч. Менш «ударыць» па вашым кашальку спектакль у Купалаўскім тэатры (білет каштуе ад 3 да 12 тысяч), канцэрт класічнай музыкі ў Белдзяржфілармоніі ці аперэты ў тэатры музкамедыі (ад 5 да 10 тысяч). Найбольш даступным са сталічных тэатраў можна лічыць Рускі драматычны — 5—7 тысяч за білет.

Прагляд фільма ў кінатэатры, у залежнасці ад класа апошняга, абыдзецца ад чатырох да сямі (двухсерыйная стужка — ад шасці да дзесяці) тысяч. Білет у цырк каштуе ад шасці да трыццаці тысяч (для дзяцей да 5 гадоў — бясплатна). Нарэшце, наведванне экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея і ўвогуле можна лічыць амаль бясплатным — да 3 тысяч рублёў.

Такім чынам, у выхадныя абраць тое ці іншае месца культурнага адпачынку без наступстваў для сямейнага бюджэту ў сталіцы можна. А калі ўсё ж такі дарагавата, нагадаем: мастацтва патрабуе ахвяр. У тым ліку і матэрыяльных.

**Сяргей ГРЫБ.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## НІЧЫЙНЫЯ МАТЫВЫ ЗАХОЎВАЮЦЦА

У галандскім горадзе Вейк-ан-Зее працягваецца міжнародны шахматны турнір з удзелам вядомых гросмайстраў свету. Трэці тур, як і два папярэднія, закончыўся ў асноўным нічыйнымі вынікамі. Беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд гуляў з галандцам Янам Ціманам. Сапернікі разышліся з мірам і абодва маюць па паўтара ачка.

У чацвёртым паядынку мінчанін зноў сустракаўся з прадстаўніком Галандыі — Лукам Ванвелі. Вынік партыі мы паведамім у наступным нумары газеты, аднак галандзец — пакуль аўтсайдэр турніру, паколькі ўсе тры папярэднія сустрэчы ён прайграў.

## «ЦІВАЛІ» БОЛЬШ ЯК ДЗВЕ ШАЙБЫ НЕ ЗАБІВАЕ

Хакеісты мінскага клуба «Цівалі» працягнулі пройгрышную дамашнюю серыю, якая склала тры матчы. Апошняя няўдача напаткала «цівалят» у сустрэчы з кіеўскім «Сокалам». Мінчане прайгралі гасцям з лікам 2:5.

Што здарылася з «Цівалі», сказаць цяжка. Склалася ўражанне, што хакеісты развучыліся трымаць клюшку ў руках. Магчыма, з гэтай прычыны мінчанам не ўдаецца ў матчы забіць больш як дзве шайбы.

Наступныя дзве гульні наўрад ці прыбавяць аптымізму айчынным аматарам хакея, паколькі «цівалята» праводзяць іх на выездзе. Заўтра яны сустракаюцца ў Маскве са сталічнымі армейцамі, а 22 студзеня сапернікам мінчан будзе яшчэ адзін армейскі клуб — ЦСК ВПС з Самары.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



*— Адзін з напрамкаў дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — падтрымка маладых талентаў Беларусі, а таксама мастакоў, — заявіў у сваім выступленні на выстаўцы-конкурсе твораў жывапісу прадстаўнік ААН у Беларусі Павел Крал. Гэта выстаўка была адкрыта 16 студзеня ў Мінску ў памяшканні Саюза мастакоў. Ініцыятарам конкурсу стала прадстаўніцтва ААН у Беларусі, а прысвечаны ён Сусветнай канферэнцыі ААН па населеных пунктах «Хабітат-2», якая адбудзецца сёлета ў Стамбуле. Самая лепшая карціна выстаўкі ўпрыгожыць вокладку Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці ў нашай рэспубліцы. Па выніках конкурсу тры лепшыя работы будуць адзначаны прэміямі і прадстаўлены на канферэнцыі ў Стамбуле, а таксама ў штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку.*

**На здымку:** на адкрыцці выстаўкі-конкурсу выступае прадстаўнік ААН у Беларусі Павел КРАЛ.

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ*

## Панадзіліся «ваўкі» ў статак...

**Амаль на працягу года двое літоўскіх грамадзян неаднаразова перасякалі беларускую мяжу з нядобрымі намерамі. Мэтай начных візітаў быў крадзеж жывёлы — коней, кароў, цялят.**

Геаграфія крымінальнага бізнесу займала ладную частку памежжа ў Ашмянскім раёне. Праўда, больш чым на 5 кіламетраў ад мяжы зладзеі не паглыбляліся. Жывёлу кралі не толькі з пашы, але і з калгасных фермаў, уласных падворкаў. Коней, вядома, пастаўлялі ў фермерскія гаспадаркі, а іншых жывёл чакаў больш сумны лёс. Амаль на месцы іх забівалі, потым на памежжы разбіралі, а дамоў везлі ўжо гатовае для продажу мяса.

Трэба адзначыць, што міліцыя неаднаразова трапляла на след злачынцаў, але тым заўсёды ўдавалася хуценька перасячы дзяржаўную мяжу. Спрабавалі рабіць засады, але зладзеі з'яўляліся ў іншым месцы.

Так было і 2 студзеня, калі зламыснікі ноччу вывелі карову з прыватнага хлява ў вёсцы Малынішкі. Па саннаму следу і крывавай дарожцы міліцыя дайшла толькі да мяжы. Праз два тыдні злачынцы ажыццявілі чарговы і апошні «рэйд» на тэрыторыю Беларусі.

З калгаснай фермы ў вёсцы Каменны Лог яны ноччу ўкралі каня. Атрымаўшы гэтае паведамленне, міліцыя кінулася ў пагоню. На гэты раз літоўцам уцячы не ўдалося.

Паводле папярэдніх даных, на рахунку «дуэта» 10 вылазак за жывым таварам, а колькасць здабытых «галоў» складае каля двух дзесяткаў.

**Георгій СЫСОЙ,**
**прэс-цэнтр УУС Гродзенскага аблвыканкома.**

## ПЯЦІГАДОВАЯ ПРЭТЭНДЭНТКА НА МЕДАЛЬ

Медаль «За ратаванне на пажары» ў самы час уручаць пяцігадовай Валі з Віцебскага раёна. Пакінутая з 9-месячным брацікам у доме без нагляду, яна не разгубілася, калі пачаўся пажар. А загарэўся матрац, які сушыўся ля распаленай печы. Дзяўчынка падхапіла Ванечку і, разбіўшы акно, выбралася з ім на вуліцу. Пажарныя не далі агню ахапіць увесь дом — згарэў толькі адзін пакой, пакінуты малышамі. Хто ведае, што б здарылася, калі б Валя не была такой кемлівай...

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ДОЎГА ЛЁН ТУШЫЛІ

Паводле паведамлення Полацкага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце, 15 студзеня ў грузавым саставе, які прыбыў на станцыю Крулеўшчына, загарэўся вагон з ільном. Аказалася, што справіцца з такім ачагом узгарання не так проста. Больш як тры гадзіны спецыяльна выкліканы пажарны поезд тушыў яго. Прычыны здарэння і матэрыяльныя страты пакуль яшчэ ўстанаўліваюцца і падлічваюцца.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*ПРАБЛЕМА*

## КАМУ ПАТРЭБНЫ ТАКІЯ ПАРКОЎКІ?

Наконт ахоўваемых платных парковак аўтамабіляў ужо выказана нямала неадназначных і процілеглых думак. І як ні стараюцца камерцыйныя фірмы, якім даручана іх арганізацыя, паказаць праз прэсу, што ўсё робіцца для зручнасці кліентаў, пытанняў і праблем узнікае вельмі шмат.

Прымаючы рашэнне аб стварэнні сістэмы платных парковак, Мінгарвыканком планаваў вырашыць гэтым цэлы шэраг праблем, такіх як паляпшэнне экалагічнай абстаноўкі за кошт змяншэння колькасці аўтатранспарту, прадастаўленне аўтааматарам магчымасці мэтавай паркоўкі транспарту, забеспячэнне захаванасці транспартных сродкаў і, вядома ж, прыцягненне дадатковых сродкаў для ўтрымання і рамонту вулічна-дарожнай сеткі.

Нельга сказаць, што ўсе гэтыя праблемы вырашаліся адразу са стварэннем парковак. Як можна палепшыць экалагічную абстаноўку за кошт змяншэння колькасці аўтатранспарту? Усе тыя аўтааматары, якія не могуць або не хочуць пакідаць свае «аўто» на платнай паркоўцы, заязджаюць у двары жылых дамоў, арганізацый, ствараючы гэтым нязручнасці і сабе, і іншым, не гаворачы ўжо аб экалогіі. Наконт «забеспячэння захаванасці транспартных сродкаў» пытанняў не менш. Калі на платнай паркоўцы вашу аўтамашыну разукамплектуюць, то, аказваецца, ніхто за гэта плаціць не будзе. Быў ужо такі выпадак: вярнуўшыся да свайго аўтамабіля з Камароўскага рынку, гаспадар «Жыгулёў» замест аўтамагнітолы ўбачыў толькі абарваныя правады. Звярнуўшыся да работніка паркоўкі (якому, дарэчы, і плаціў грошы) з пытаннем: «Дзе аўтамагнітола», пачуў у адказ: «А яна ў цябе была?» Каментарыі, як кажуць, лішнія.

Вядома, можна звярнуцца ў суд, але каму хочацца пачынаць справу на доўгія месяцы, хоць у рашэнні № 27 Мінгарвыканкома «Аб упарадкаванні размяшчэння месцаў паркоўкі транспартных сродкаў» дакладна сказана, што «эксплуатуемая арганізацыя нясе адказнасць за захаванасць прынятых на захоўванне транспартных сродкаў». Але, як часта ў нас бывае, пастанова прынята, а механізм выканання не адпрацаваны. Вельмі шмат скаргаў з боку аўтааматараў па пытанню абезрухоўлівання або блакіроўкі аўтамабіляў. Сёння ўжо нікога не здзіўляе з'яўленне ў месцах парковак людзей у незразумелай уніформе, якія «абуваюць» машыны ў блакіратары, а затым, каб зняць іх, патрабуюць уплаціць штраф — нібыта за няправільную паркоўку. Вядома, калі б усё гэта рабілі работнікі ДАІ, і затрыманыя вадзіцелі пераводзілі грошы на рахунак гэтай арганізацыі, пытанняў было б менш. Але калі людзі плацяць грошы невядома каму і незразумела за што, абурэнне іх справядлівае. Многіх непакоіць тая акалічнасць, што побач з «паркоўшчыкамі» часта знаходзяцца работнікі ДАІ, і ствараецца ўражанне, што міліцыя з «фірмачамі» дзеліць грошы. Як растлумачыў начальнік ДАІ УУС Мінгарвыканкома Анатоль Сідарэня, «работнікі ДАІ да блакіроўкі не маюць ніякіх адносінаў». А вось камерсанты карыстаюцца прысутнасцю міліцыі і не саромеюцца апусташаць кашалёк законапаслухмяных грамадзян. Дарэчы, па ініцыятыве кіраўніцтва сталічнай дзяржаўтаінспекцыі ў Мінгарвыканком накіравана пісьмо «Аб неабходнасці прыняцця мераў па ўдасканаленню дзейнасці, звязанай з платным паркаваннем у горадзе», дзе прапануюцца канкрэтныя распрацоўкі з улікам усіх прапаноў і пажаданняў. Так што ў хуткім будучым з платным паркаваннем, магчыма, будзе наведзены парадак. Ну, а пакуль усё застаецца па-ранейшаму, і ў аўтааматараў узнікае заканамернае пытанне: як жа быць у тых або іншых сітуацыях, што ўзнікаюць на паркоўках? Як растлумачылі ва ўпраўленні прававога забеспячэння і знешніх сувязей МУС Рэспублікі Беларусь, тое ж абезрухоўліванне (блакіроўка) транспартнага сродку з'яўляецца не чым іншым, як «завалоданнем маёмасцю», а ніхто не можа быць пазбаўлены сваёй маёмасці інакш, як па рашэнню суда. Тое ж датычыць і прымусовай адбуксіроўкі. Таму ўсім трапіўшым у канфліктную сітуацыю можна параіць звяртацца ў суд (сабраўшы ўсе квітанцыі і запісаўшы прозвішчы) з патрабаваннем абавязаць фірму, якая займаецца незаконнай блакіроўкай і вымаганнем грошай за навязаныя паслугі, неадкладна вярнуць аўтамабіль і выплаціць кампенсацыю за маральны і матэрыяльны ўрон у суме, якую вы вызначыце самі. Ну, а ўсім арганізацыям і адказным асобам, якія прымаюць падобныя рашэнні, хочацца пажадаць, каб усё рабілася на законнай падставе і для дабрабыту ўсіх людзей.

**Пётр РАБКАВЕЦ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.16 | 16.24 | 8.08 |
| Віцебск – | 8.12 | 16.08 | 7.56 |
| Магілёў – | 8.05 | 16.14 | 8.09 |
| Гомель – | 7.55 | 16.17 | 8.22 |
| Гродна – | 8.30 | 16.41 | 8.11 |
| Брэст – | 8.23 | 16.48 | 8.25 |

### МЕСЯЦ

Маладзік 20 студзеня

### ІМЯНІНЫ

Пр. ВАДОХРЫШЧА ГАСПОДНЯЕ. БОГАЯЎЛЕННЕ

К. Генрыка, Марыі, Язэпа

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікі снег, галалёд. Тэмпература паветра ў Гродне — 3—5, Брэсце, Мінску — 4—6, Гомелі, Магілёве, Віцебску — 5—7 градусаў ніжэй нуля.

У наступныя двое сутак чакаецца: 20-га — месцамі, 21-га — па поўдню невялікі снег. Тэмпература ўначы — 6—11, пры праясненнях да 16, удзень — 3—8 градусаў марозу.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 19 студзеня

Надвор'е вызначыцца полем паніжанага атмасфернага ціску. Утрыманне кіслароду ў паветры будзе вагацца ў межах сярэдніх шматгадовых даных. У такіх умовах у большасці метэазалежных хворых паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый малаверагоднае. Магчыма толькі пагаршэнне стану здароўя ў гіпертонікаў. Гэтай групе хворых рэкамендуецца кантроль артэрыяльнага ціску, рэгулярны прыём лекавых прэпаратаў, прызначаных урачом, і заспакаяльных сродкаў.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

